*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 51(385) | 30 СНЕЖНЯ 1998 г.

# З Новым 1999 годам, шаноўнае спадарства!



**Віншаванне**

Вее вецер, вее свежы,
Ходзіць з песняй па бары.
Адыходзіць месяц снежань,
Адыходзіць год стары.

Хмары ясных зор не засцяць,
Надыходзіць Новы год.
З Новым годам,
з новым шчасцем,
Беларускі мой народ!

Язэп Пушча.

## Віншаванні газеты "Наша слова" пад Новы год

Мы віншуем газету "Наша Ніва" з выйгрышам судовага працэсу ў абарону тарашкевіцы.

Мы віншуем усіх сяброў ТБМ з тым, што ТБМ вярнулася ў сваю сядзібу, сплаціла ўсе запазычанасці і штрафы і падпісала льготны кантракт на тры гады на арэнду сядзібы.

Напярэдадні Новага года мы просім прабачэння ў навучэнкі 10 класа ліцэя пры БДУ Ніны Мяцельскай за тое, што яе матэрыял "З дзённіка мовы беларускай" падалі пад імем яе настаўніцы Людмілы Давыдаўны Зарэцкай.

## ПАСТАНОВА РАДЫ ТБМ

**аб правядзенні справаздачна-выбарчай кампаніі**

1. Правесці чарговы, УІ з'езд ТБМ у другой палове красавіка 1999 года ў Менску.
2. Правесці справаздачу і выбары ў мясцовых суполках ТБМ з 15 снежня 1998г. па 10 сакавіка 1999 г.
3. У газеце "Наша слова" ўвесці рубрыку "Насустрач УІ з'езду ТБМ".
4. Абавязаць абласныя, гарадскія і раённыя арганізацыі ТБМ да 10 сакавіка 1999 г. падаць у Сакратарыят:
   - справаздачу па працы рэгіянальнай арганізацыі ТБМ за 1998г;
   - спіс кіраўнікоў і сяброў рэгіянальнай арганізацыі;
   - спіс сяброў, дэлегаваных на з'ездзе ТБМ;
   - справаздачу па аплаце сяброўскіх складак.



*24 снежня споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння вялікага сына Беларускай зямлі Адама Міцкевіча*

**Над постаццю Адама Міцкевіча маленне**

Маці — выхрыст, сын — паляк ...
Пэўна, скажуць вам і так.

Толькі стаў паэт вялікім
Пад зямлі бацькоўскай клікі.

Яе казкі і паданні
У дзяцінстве зведаў раннім.

Тут з маленства чуткім вухам
Ён "па-просту" песні слухаў.

"Просты" край жа той у свеце,
Беларусяю завецца.

У спрэчках шмат вады сплыло.
Скажам кожнаму мы ў лоб —

Каб зямлі той не было,
І паэта не было б.

Як яго не называй
І каму не аддавай,

Свет засведчыць і засвет, —
Беларускі ён паэт.

Тут не толькі нарадзіўся,
Тут не толькі ахрысціўся, —
Ён паэтам тут зрабіўся.

Козыр нават ёсць і больш.
Жыць не жыў бадай у Польшчы.

І не быў нат у Варшаве.
Люд свой мовай польскай славіў.

Па-старому называў
Край Літвой. Аб ім пісаў.

Іван Чыгрын.

## Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца" В.Акудовіч ўпэўнены, што змена кіраўніцтва ў цэнтры імя Ф.Скарыны "заб'е ў ім атмасферу жывой вольнай творчасці"

Менск, 5 снежня. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца" Валянцін Акудовіч, вядомы беларускі інтэлектуал, упэўнены ў тым, што змена кіраўніцтва Нацыянальнага навукава-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны "заб'е ў ім атмасферу жывой вольнай творчасці".

Як раней паведамляў БелаПАН, дырэктар цэнтра імя Ф.Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс 1 снежня выпраўлены на пенсію. Новым дырэктарам цэнтра прызначана кандыдат філалагічных навук Любоў Канапляпік, якая дагэтуль займала пасаду галоўнага інспектара ў Міністэрстве адукацыі.

Каментуючы змену кіраўніцтва, В.Акудовіч адзначыў, што "другога Мальдзіса ў цэнтры Скарыны ўжо не будзе". Стала традыцыяй уладаў выпраўляць на пенсію выбітных людзей, якія поўныя творчых сілаў і якія фізічна могуць працаваць", — падкрэсліў В.Акудовіч. У якасці прыкладаў ён прывёў лёсы Васіля Сёмухі і Рыгора Барадуліна — былых рэдактараў выдавецтваў, Міколы Гіля, Анатоля Кудраўца і Алеся Масарэнкі — былых галоўных рэдактараў "ЛіМа", "Нёмана" і "Першацвета" — людзей з вялізарна багатым вопытам, якіх хуценька выправілі на пенсію "па дасягненні 60-годдзя". Гэтакім метадам улады карыстаюцца заўсёды, калі няма іншай магчымасці прыбраць няўгоднага для іх чалавека", — заўважыў В.Акудовіч. Па яго словах, улады, такім чынам, клапоцяцца не аб інтэлектуальных каштоўнасцях, якія ствараюць гэтыя выключна адароныя людзі, а аб сваіх палітычных, ідэалагічных і асабістых інтарэсах.

*Марат Гаравы, БелПАН.*

## Музей без беларускамоўнай перыёдыкі

Звычайна ўжо не першы год аддзелы культуры сумесна з райвыканкамам забараняюць бюджэтным арганізацыям падпісвацца на незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Наконт гэтага раённая "вертыкаль" мае адпаведны дакумент з адміністрацыі прэзідэнта. Гэтай восенню Мастоўскія ўлады пайшлі далей. Мясцоваму музею "Чалавек і лес" дадаткова забаранілі падпісвацца на беларускамоўныя выданні.

Сярод іх газета "Літаратура і мастацтва", часопісы "Маладосць" і "Полымя".

Абмяжаванняў у падпісцы на расейскамоўныя выданні не існавала.

*Язэп Палубятка.*

## Цураемся мовы ці ніякай нацыянальнай свядомасці

15 снежня ў мястэчку Лунна дзеці, што вывучаюць польскую мову і лічаць сябе палякамі ладзілі Навагоднюю ёлку. На мерапрыемстве прысутнічаў генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Беларусі Шостак. Усе выступоўцы: дзеці, госці і консул размаўлялі, спявалі па-польску, што натуральна. А вось старшыня сельскага савета спадарыня Карповіч, беларуска па нацыянальнасці заключнае слова прамовіла па-расейску, хоць цудоўна валодае роднаю моваю.

І чаму гэтая "вертыкаль" так цураецца беларускае мовы?

*Я.Палубятка.*







# ПУБЛІЧНЫ ЗДЗЕК НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ



Калісьці было так: у дырэктара радыё ці тэлебачання праскоквала небеларускае слова або небеларускае вымаўленне. Гэта здаралася рэдка, правінак, відаць, караўся строга, расцэньваўся як грубае парушэнне прафесійнага статуса. І грамадскасць звяртала на ўсякі падобны факт увагу. Помню, заўсёды хто-небудзь з пісьменнікаў пры сустрэчы пытаў: "Чулі, які моўны "перл" пусціў учора ў эфір дыктар? Ну і ну! Гэта ж трэба! Проста сорамна!.. "Але, паўтараю, гэта здаралася не так часта. За культурай мовы дыктары ўсё-такі стараліся сачыць — бо вымушаны былі сачыць, інчай ім давялося б развітацца з месцам працы па прычыне прафесійнай непрыгоднасці. Так было ў тыя недалёкія часы, калі ўвогуле беларускую мову ў грамадскім ужытку патроху зводзілі на нішто.

На працягу апошніх гадоў моўная сітуацыя на беларускім радыё і асабліва на тэлебачанні няспынна мянялася ў горшы бок, і, нарэшце, можна канстатаваць, што непісьменнасць у эфіры набыла пагражальныя маштабы. Ужо гады чатыры, як я сачу за мовай дыктараў — і не было ніводнага дня, каб не пачуў у іхнім беларускім тэксце некалькі расейскіх слоў, або расейскіх формаў слова, або расейскага вымаўлення, або расейскіх фразеалагізмаў ... Ніводнага дня без памылак! Іншы раз запісваў на лістках, на газетах — што пад руку трапляла — прыклады недаравальнай для прафесійнага журналіста непісьменнасці, назапісваў іх, можа, некалькі сот, ды і перастаў нарэшце, бо — а што толку? Усе яны вылецелі ў эфір, а слова не верабей — не зловіш, усе іменем аўтарытэта дзяржаўнай установы паспрыялі пашырэнню непісьменнасці і моўнага бескультур'я ў краіне.

Беларускіх дыктараў (а гаворка ідзе толькі пра дыктараў) слухаюць мільёны грамадзян горада і вёскі. Вось і вучацца яны ў майстроў СМІ, як правільна, хораша гаварыць па-беларуску: знялі *лясы* (*рыштаванні*), розныя *лакамствы* (*ласункі, прысмакі*), знік дэфіцыт *канфет* (*цукерак*), *зернавыя* (*збожжавыя*), па *міжнародным шашкам* (па *міжнародных шашках*), пойдзеш *за воўнай* (пойдзеш *па воўну*), збяруцца *у невялічкай* ёлачкі (збяруцца *каля елачкі*), забавы *напрасцей* (*больш простыя, прасцейшыя*), *грыбнікаў* (*грыбнікоў*), *пры`знаны* (*прызна`ны*), праграмы, *па якім* працуюць (*па якіх* працуюць), *га`ючымі* зёлкамі (*гаю`чымі*), *за`нятасць* (*заня`тасць*), *набы`ла* (*набыла`*), *нашча`* (*на`шча*), задаволіць *густы`* (*гу`сты*), згуляна тры *тура* (тры *туры*), прапануем гутарку са *святарам* (*святаром*), па *мажары`тарнай* (*мажарыта`рнай*), *спа`рышы* (*спарышы`*), ёсць *рызы`ка* (*ры`зыка*) — гэта сёе-тое з мовы дыктараў радыё. У дыктараў тэлебачання падобнага здзеку з беларускай мовы яшчэ больш: паляванне на *утак* (на *качак*), у *стране* (у *краіне*), у *возрасце* да трох гадоў (ва *ўзросце*), *благадатная* зямля *да* родзіць (*добрая* зямля *хай* родзіць), на *блага* народа (на *карысць*, дзеля *дабра*), санаторый *распалажыўся* (*размясціўся*), *абразцовыя* гаспадаркі (*узорныя*), прызнаць у *твары* гэтага таварыства (у *асобе*), *абвінілі падсудзімых* (*абвінавацілі падсудных*), пачатак *страды* (*гарачай пары*), *міравая* практыка (*сусветная*), *мальчуковая* бялізна (*хлапечая*, *хлапчуковая*), *атрымлівая яе ўне закона* (*атрымліваючы яе незаконна*), на трыццаць два *мільёна* рублёў (трыццаць два *мільёны*), сёння яго носяць *на грудзі* (*на грудзях*), у выніку мэтанакіраваных *дзейнасцяў* (*дзеянняў*), аб адным *чалавеке*, аб *этыке*, аб *эстэтыке* (аб *чалавеку*, аб *этыцы*, аб *эстэтыцы*), у передвыбарчай *гонке* (*гонцы*), у *эканоміке* (*эканоміцы*), у традыцыйнай *рубрыке* (*рубрыцы*), у нашай *рэспубліке* ( амаль кожны дзень!, *рэспубліцы*), затое: у сталіцы *рэспубліцы* (*рэспубліці*), не *называя*, не *думая*, не *ведая* ( не *называючы*, не *думаючы*, не *ведаючы*), *пры`быў* з Канады (*прыбы`ў*), з *марму`ру* (з *ма`рмуру*), у *шарагу`* ( у *шэ`рагу*), *прайдуць* дажджы (*пройдуць*), *нада`лей* (*надале`й*), па *спецыяльнасцям* (*спецыяльнасцях*) і г.д., і г.д.

Вось такой мовай гавораць ужо гады чатыры дыктары беларускага радыё і тэлебачання. Уражанне, што некаторыя з гэтых маладых людзей не вывучалі дзяржаўную мову краіны, ведаюць яе толькі збольшага. Дык як жа іх прынялі на такую працу? Не праверыўшы самым дасканалым чынам іхняе веданне мовы? Чаму ім ніхто не растлумачыў, што мова радыё і тэлебачання, як і мова тэатра, павінна быць ва ўсіх адносінах эталонам літаратурнай мовы ( у тым ліку і літаратурнага вымаўлення). Падкрэсліваю: эталонам! Яна павінна быць школай моўнай культуры для ўсіх грамадзян краіны. Ці, можа, гэта робіцца наўмысна — каб, ідучы такім шляхам, змяшаць дзве мовы ў адну, утварыць агідную трасянку? Каб людзі недасведчаныя сказалі: "Да это же невозможно слушать! Искаженная русская речь и не более! Зачем же на искаженной? Разве нет людей, хорошо знающих русский язык?.."

***Ніл Гілевіч,***
***народны паэтБеларусі.***



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у №№ 5-7, 12-15, 40-45, 49-50)

**Адказныя — а не "нясуць адказнасць"?** У нашай перыёдыцы замацаваўся гэты штамп — ***"несці адказнасць"***. "Аўтары ***нясуць адказнасць*** за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі" ("Наша слова". №23(357).17 чэрвеня 1998г. С.4.). "Аўтары ***нясуць адказнасць*** за свае матэрыялы ў адпаведнасці з Законам аб друку Рэспублікі Беларусь" (Полымя.1998.№4.С.320). "У адпаведнасці з Законам аб Друку аўтары ***нясуць адказнасць*** за дакладнасць прыведзеных у артыкуле фактаў і звестак". (Роднае слова. 1998.№2.С.2). Чытаеш гэтыя радкі і ўсведамляеш іх штучнасць: ***"аўтары нясуць адказнасць..."*** Куды яны нясуць? і ў чым?! Нібы гэта садавіна (агароднiна), якая ў кошыку! Замест гатае калькі (рас. ***несут ответственность***) куды больш нязмушана выглядае тэкст ***"Аўтары адказныя*** (за падбор і дакладнасць сваёй інфармацыі ... за свае матэрыялы і г.д.).

Патрабавальныя да культуры мовы аўтары так і пішуць. Да прыкладу: "Жанчыны ***адказныя*** таксама за прыгатаванне ежы, хоць дзічыну могуць гатаваць мужчыны" (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. (Навуковае выданне). — Мн.: Тэхналогія. 1995.С.112).

***Сама вялікі — і самы вялікі?*** Аналітычныя формы найвышэйшай ступені якасных прыметнікаў і прыслоўяў звычайна складаюцца з адпаведных лексемаў і далучаных да іх словаў ступені — прыслоўяў — ***найбольш*** ці ***найменш***: цікавы і ***найбольш*** цікавы, спрытны і ***найменш*** спрытны, высока і ***найбольш*** высока. Замест гэтых прыслоўяў меры і ступені выкарыстоўваецца аналагічнае прыслоўе ***сама***: вялікі і ***сама*** вялікі, хутка і ***сама*** хутка, (ляцець) нізка і ***сама*** нізка. "Звонку здаецца, што дэмакратыя — ***сама*** прывабны з усіх рэжымаў, бо яна нібыта надзяляе кожнага індывіда свабодай". (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Мн., 1996.С.30). "Пяты год ішоў, як у ***сама*** службовым узросце ён зволніўся з вайсковай службы ..." (Полымя. 1998. №8.С.52). Беларускія слоўнікі зафіксавалі слова ***сама*** толькі з наступнай кваліфікацыяй: "***Сама***, *часціца ... Ужываецца ў спалучэнні з якаснымі прыслоўямі для абазначэння ступені;* ***сама*** *лепш,* ***сама*** *больш,* ***сама*** *меней ...*" (ТСБМ. Т.5. Кн.1. Мн.,1983.С.32,33). Прадубляваў гэта і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С.582): "***Сама.*** *часц. 1. Ужываецца ў спалучэнні з якаснымі прыслоўямі для абазначэння найвышэйшай ступені.* ***Сама*** *менш прапушчана ўрокаў у першым паўгоддзі"*. Далей у згаданых слоўніках паказваюцца іншыя значэнні гэтай часціцы (***самы*** пачатак дзеяння, у ***самую*** пару, у ***самы*** раз ды інш.).

"Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С. Некрашэвіча (Менск,1926. С.283) зафіксаваў: "***Самамалы*** — наименьший, минимальнейший". Як бачым, тут прыслоўе ***сама*** (напісанае ў адно слова з прыметнікам) мае тое самае значэнне. Такіх спалучэнняў у народнай мове шмат: ***сама*** дужыя, ***сама*** дасціпныя, ***сама*** здатныя, ***сама*** выхаваны, ***сама*** сціплыя...

У нашых граматыках замест гэтага прыслоўя сталі выкарыстоўваць займеннік ***самы*** (пад уплывам расейскай мовы). Так была зліквідаваная адмысловая адзінка беларускай мовы. Сучасны друк незалежнай Беларусі адраджае гэтую адметнасць нашай мовы. Нярэдка бачым гэтае слова ***сама*** напісаным разам з прыметнікам, як адно слова. "Толькі дзіву даешся, як часта праблемы, што былі балючымі грамадству ў няблізкім мінулым, застаюцца вострым болем і ў ***самагарачае*** сучассе. (Полымя. 1998. №8. С.59). Можна ж прыклады прыводзіць і з ***самановага*** часу. (Тамсама, с.63). Натуральным трэба лічыць асобнае напісанне слова не толькі з прыслоўямі (***сама*** лепш), але і з прыметнікамі (***сама*** гарачы).

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Насустрач VI з'езду ТБМ*

# У Свіслацкай радзе ТБМ

**Занімай, Беларусь маладая мая.**
**Свой пачэсны пасад між народамі!... (Я.Купала).**

Свіслацкая Рада ТБМ Ленінскага раёна горада Менска прывяла справаздачна-выбарчы сход. На ім прысутнічалі — 62 чалавекі, з іх 57 сяброў ТБМ, а ўсяго на нашым уліку 72.

З уступным словам выступіў спадар А.Трусаў, які расказаў аб агульным становішчы спраў у ТБМ і краіне. Ён сказаў, што сядзіба ТБМ вернута на ваё ранейшае месца і практычна вырашана пытанне з аплатай за арэнду. У заключэнне сп. А.Трусаў, падзякаваў Соўпель Лідзію Антонаўну і ўручыў ёй сціплы падарунак за актыўную працу ў раённай ТБМ.

У справаздачным выступе Л.Соўпель расказала аб асноўных кірунках дзейнасці ТБМ раёна. Яна распавяла, што найбольшая ўвага была звернута на працу сярод бацькоў, дзеці якіх ішлі ў першыя класы, альбо навучаліся ў беларускамоўных класах. Збор ахвяраванняў быў накіраваны на закупку кніг, падарункі для узнагарод лепшых вучняў беларускіх класаў раёна, на дапамогу бедным сем'ям. За гэтыя грошы праводзілася падпіска на беларускамоўныя выданні, на бібліятэкі, для школ.

Сябры ТБМ дапамаглі ў арганізацыі конкурса сачыненняў "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай", "Гісторыя Беларусі у 1945 - 1965 гадах".

А.Седзяка — віца-прэзідэнт ТБШ расказаў аб стане спраў пры паступленні у беларускія класы школ г. Менска. На гэты навучальны год 800 школьнікаў прынята ў беларускамоўныя класы, альбо 4% ад усіх школьнікаў горада, з якіх 175 вучняў былі прыняты у школы № 2 і № 15. Ён адзначыў, што праца, праводзімая ТБМ раёна, дае свой плён, прапанаваў лічыць працу раённай Рады ТБМ — задавальнай.

М.Суслаў — сябра ТБМ расказаў, пра штодзённую працу сяброў ТБМ, іх удзеле ў пікетах, дапамозе ТБМ з боку Свіслацкай Рады БНФ раёна. Ён падкрэсліў надпартыйнасць структур ТБМ і неабходнасць наладзіць сумесную працу з сябрамі ТБМ усіх партый раёна.

У. Бордак — сакратар управы ТБМ — распавёў пра гісторыю стварэння ТБМ у раёне, аб неабходнасці удзелу у супольных мерапрыемствах ТБМ розных партый і рухаў.

А.Трусаў — намеснік старшыні Рэспубліканскай Рады ТБМ расказаў аб праводзімых мерапрыемствах сябрамі ТБМ, удзеле ў пікетах і мітынгах у абарону беларушчыны, збор подпісаў за адкрыццё Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Было падкрэслена, што 30-50% удзельнікаў пікетаў і мерапрыемстваў праводзімых ТБМ, складалі сябры ТБМ нашага раёна.

І.Каравайчык — старшыня партыі Здаровага Сэнсу — расказаў пра жаданне актывізаваць сумесную працу з ТБМ у раёнах і ў нумарах газеты "Здравый смысл", друкаваць наша матэрыялы, заклікаў сяброў правесці ў раёне свята беларускай мовы, прапанаваў сваю дапамогу ў арганізацыі лекцый па беларускай гісторыі, культуры і традыцыях.

М.Савіцкі — сябра гарадской Рады ТБМ — звярнуў увагу на неабходнасць вяртання альбо аднаўлення банкаўскага рахунка раённай ТБМ. Заклікаў да актыўнага супрацоўніцтва з гарадской Радай ТБМ.

Старшынёй раённай Рады ТБМ Ленінскага раёна г.Менска абралі — Урбана Міколу Аляксандравіча.

Гістарычны досвед сведчыць, што толькі прыярытэт мясцовых інтарэсаў і законаў над іншымі прыводзіць да росквіту краю. Былыя калоніі Расейскай імперыі — Польшча і Фінляндыя ўсяму свету даказалі, што без расейскай апекі жыць лепш. І калі мы хочам палепшыць свой дабрабыт, неабходна ўладкаваць наш Дом — Беларусь, падмуркам якога з'яўляецца наша культурная спадчына і ў першую чаргу — мова. Адрадзіўшы і захаваўшы ўсё гэта, мы абрынем патугі ўсходняй імперыі гаспадарыць у Нашым Доме.

Свіслацкая рада заклікае ўсіх, незалежна ад нацыянальных, партыйных і канфесійных праналежнасцеў, каму дарагія ідэалы свабоды і незалежнасці нашай роднай Беларусі, далучайцеся да нас. З намі можна звязацца:

220095 г.Менск. а/с.81.
або тэлефанаваць:
2 - 38 - 86 -85
Урбан Мікола.

По даручэнню Рады
распавядала
***Палюховіч Кацярына.***

# СЛУЦКІМ ЗМАГАРАМ У 28 УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ. ЛІСТАПАД 1920 ГОД.

28 снежня палкі Слуцкай брыгады перайшлі раку Лань і здаліся палякам. Слуцкі збройны чын скончыўся. Сёння мы прапануем нашым чытачам артыкул Янкі Філістовіча, напісаны ў 1948годзе.

*Янка Філістовіч (нар.у 1926 г.) — актыўны дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Увосені 1943 года ён быў мабілізаваны ў 13-ы Беларускі батальён (Вялейка, Менск) і ў 1944-м эміграваў на Захад. Вывучаў гісторыю ў Сарбонскім (Францыя) і Лювэнскім (Бельгія) універсітэтах, выдаваў часопіс "Моладзь", быў адным з лідэраў Беларускай Незалежніцкай Арганізацыі Моладзі ў Францыі. 11 сакавіка 1951 году стаў сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*3 верасня 1951 года Янка Філістовіч падпольна працуе ў Беларусі. Ягоныя словы: "Я сустракаўся і гаварыў з людзмі і заўсёды расказваў, хто я, адкуль, з якімі паўнамоцтвамі. Многім паказваў пасведчанне сябры Рады БНР. Двойчы ездзіў у Вільню, Гародню. Усе, з кім я гаварыў, пасля таго, як даведваліся пра мэты майго прыезду, ахвотна дапамагалі, давалі прытулак, здабывалі неабходную інфармацыю".*

*5 верасня 1952 года органы МГБ распачалі аперацыю супраць групы Філістовіча. Два ўдзельнікі ягонага атрада былі забітыя, астатнія арыштаваныя. Янку Філістовічу тады ўдалося пазбегнуць арышту. Толькі праз пяць дзён яго затрымалі недалёка ад Гародні. Вайсковы трыбунал прысудзіў Філістовіча да смяротнага пакарання праз расстрэл.*

Ад пачатку сваёй гісторыі Беларусь, дзякуючы свайму гэаграфічнаму размяшчэнню, з'яўляецца арэнай змагання. Беларускаму народу даводзіцца весці няўстанную барацьбу, каб запэўніць сваё нацыянальнае існаванне. Як Дзераўляне, Радзімічы, Крывічы так і іншыя плямёны нашага народа, пачынаючы ад 10-га стагоддзя, змагаюцца з чыжынцамі за сваю незалежнасць. Пастаянная пагроза, як і гатоўнасць да барацьбы ў абароне сваёй волі, так уплывае на Беларуса, што стварае з яго адпорны, вынослівы і загартованы характар- своеасаблівы тып чалавека. Гэтым самым наша Бацькаўшчына ўзмоцнілася да такой ступені, што з поспехам абараняе сябе ад постраху тагачаснай Еўропы — мангольскіх качаўнікоў, тады як амаль усе суседнія народы страцілі сваю незалежнасць.

Пачынаючы ад 13-га стагоддзя Беларусь (Літва) кіраваная гордасцю Нашага Народа — слаўнымі сынамі як: Міндаўг, Гедымін, Альгерд, Кейстут ды Вітаўт — дасягае шчыту свае магутнасці — становіцца найсільнейшай дзяржавай у тагачаснай Еўропе. Але слаўная залатая пара праходзіць як і ўсё на свеце.

Доля злучае нашу Бацькаўшчыну з Польшчай. Апошняя, не адказваючы ні пад якім узглядам гэтаму злучэнню, сістэматычна, крок за крокам, раскладае Наш Край у нутры ў часе Яго найбольшых вонкавых змаганняў. У рэзультаце частка нашых магнатаў заражаецца Палякамі, траціць сваю духовую і маральную сілу, паволі паддаецца чужым уплывам паддаючы ім і Наш Край. Дзякуючы гэтай здрадзе Беларусь траціць сваю незалежнасць перш у карысць палякаў, пасля маскалёў. Беларускі Народ пратэстуе супроць паняволення, паднімае рад збройных паўстанняў. Імя, як Вашчылы, Дубіны, Галоты так і "Пара" - Левановіча ды векапомнага правадыра Кастуся Каліноўскага, вечна памятны нам, як і тым, супраць каго гэтыя героі паднімалі, у імя Беларускага Народу, наш традыцыйны Даўмонтаў меч.

Хоць паўстанні ўдавалася часова задушыць, як адным, так і другім акупантам, нязломная воля да жыцця, да незалежнасці — няўпынна гарэла ў грудзёх Беларускага Народа. Ні масавае знішчэнне, ні вывожванне ў далёкі Сібір, ні гора ні слёзы, прычыняныя маскалямі, не маглі зламаць Беларускага Народнага Духу. Яскравым доказам гэтага з'яўляецца агалошанне воляй усяго Беларускага Народа, праз АКТ 25 сакавіка 1918 года, Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Толькі не доўга цешыцца Беларус гэтай радаснай падзеяй. Як Маскве так і Варшаве не падабаецца тое, што беларускі селянін сам у сябе гаспадаром. Таму яны імкнуцца паняволіць Беларусь нанова і высылаюць з гэтай мэтаю сваё войска. Слабыя беларускія нацыянальныя сілы былі не дастатковымі даць належны і рашучы адпор мангольскім ордам, якія насланы Масквой, затапілі Беларусь. Тады Случчакі, якім прысвячаем гэты наш артыкул, паднімаюць супроць паняволення збройнае беларускае паўстанне, — затрымоўваюць бальшавіцкі наступ. Адважныя Случчакі арганізуюць самаабарону на чале з Радай Случчыны, — якая творыць беларускія рэгулярныя вайсковыя аддзелы. Кароткі час, як і наступ бальшавікоў, не далі магчымасці належна арганізаваць самаабарону ў Слуцку. Галоўнае беларус-кае вайсковае камандаванне выдае загад збройным аддзелам пакінуць Слуцк і вызначае зборны пункт у Семежаве, дзе збіраецца блізу 10 000 паўстанцаў. Тут-жа ў Семежаве ствараецца беларускі Слуцкі полк пад камандай пал. Гаўрыловіча які, нягледзячы на дрэннае ўзбраенне, прыступае да збройнай барацьбы супраць бальшавікоў. Пад камандай кап. Семянюка паўстае другі беларускі Грозаўскі полк, зарганізаваны пераважна з моладзі Грозава. Слуцкі і Грозаўскі палкі ствараюць першую Слуцкую дывізію, каманда якой даручаецца кап. Анцыповічу, а пасля кап. Сокал-Кутылоўскаму. 27 лістапада 1920 году першая беларуская Слуцкая дывізія распачынае крывавы, няроўны бой за Родны Край — за Беларусь.Ля вёсак: Быстрыцы, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чарнагубава, Васілішак, Дашнава, Лютавіч, Мацкевічаў ды Копыля, Цімкавічаў і Вызны разгор-тваецца крывавая барацьба. Гераічныя паўстанцы не толькі паўстрымоўваюць бальшавіцкі наступ, але перахадзяць да контраатакі і адбіраюць ад шматкротна пераважаючага як лічбова так і ўзбраеннем ворага, вёскі і мястэчкі, ачышчаюць цэлыя мясцовасці. Камандаванне чырвонае Масквы бачачы небяспеку ў аддзяленні Беларусі пасылае супраць беларускіх паўстанцаў найбольш верныя вайсковыя злучэнні камуністаў. Гэтыя янычары праводзяць сярод беларускага насельніцтва масавыя арышты і расстрэлы, каб гэтым самым аслабіць баёвы дух Случчакоў.

Ні салідарнасць усяго беларускага народа, ні часовая перамога, не маглі запэўніць паўстанцам абарону Беларусі. Неадпаведная падрыхтоўка яе, недахоп узбраення з амуніцыяй, змушаюць паўстанцаў, паміма ўдалых контраатак, адступаць да ракі Лань.

28 снежня 1920 году гераічная Слуцкая дывізія прымушана пераходзіць у занятую палякамі Беларусь дзе яе палякі раззбройваюць і інтэрнуюць перш ля Сіняўкі, пасля ў Беластоку. Частка паўстанцаў не аддае Палякам зброі й пераходзіць у Слуцкія лясы, рэарганізуецца ў адпаведна баёвыя аддзелы і з нячуванай упартасцю і самаахвярнасцю змагаецца за Бацькаўшчыну яшчэ доўгія гады, аж пакуль яе вораг канчаткова перамагае і нішчыць.

Як мы бачылі вышэй, мінуўшчына нашай Бацькаўшчыны вельмі багатая слаўнымі паўстаннямі. Слуцкае-ж паўстанне з'яўляецца найбольш блізкім і дарагім беларускаму сэрцу. Блізкім не дзеля таго, што ад яго нас аддзяляе ўсяго 28 год, але таму, што ў Слуцкім паўстанні каля 10 000 беларускай моладзі кінулася ў бой з незлічонымі полчышчамі бальшавікоў і пагнаўшы іх з усяе Случчыны, дае нам найлепшы прыклад гераізму.

Мы, беларуская моладзь, прысягаем паўшым Слуцкім героям — "Тым, што першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына" (гэты запавет быў выпісаны на паўстанцкім сцягу), што падняты імі Беларускі Нацыянальны Штандарт мы не паплямім, а горда і ўпэўнена панясём да канчатковай перамогі. Сёння, у 28-ыя ўгодкі Слуцкага паўстання, мы, Беларусы-выгнанцы пераносімся сэрцам і думкаю на патаптаныя чужынцамі магілы паўшых Слуцкіх змагароў, клянёмся ў помсце і кажымо: Слава і вечная памяць Слуцкім Паўстанцам — героям, паўшым за Родны Край — Беларусь!

***Янка Філістовіч.***

# Каб не стала запозна

Прачытаўшы ў "Нашым слове"артыкул Івана Каравайчыка "Не гіне, а жыве і будзе жыць" (№48 за 9.12.98г) я адчуў і задавальненне і гаркату. Задавальненне бо даведаўся, што ёсць людзі, для якіх ужо стала відавочным неабходнасць пошуку новых шляхоў, новых форм, новых лідэраў.

Гарката ад таго, што колькі згублена часу, прычым часу спрыяльнага. Спадзяюся, ніхто не стане мне пярэчыць у тым, што ў перадпрэзідэнцкі час нашай краіны ўмовы для дзейнасці і перамогі ў дэмакратаў былі вельмі спрыяльныя. І толькі фанабэрыстасць, пераацэнка саміх сябе, стала прычынай паражэння і Пазьняка, і Шушкевіча. Яны не лічылі патрэбным нават адказаць чалавеку на яго прапановы, не кажучы пра тое каб прыслухацца да іх.

Калі казаць пра стасункі ТБМ і палітычных партый, то я, асабіста, яшчэ у 1995 г. заклікаў стварыць на базе ТБМ палітычную партыю (гл. "НС" № 12 за 22.03.95г). На вялікі жаль, гэты заклік (тады заклік адзіночкі) не быў нікім пачутым. А што зараз ? Яшчэ за тры тыдні да таго, як пабачыў свет артыкул І.Каравайчыка, у рэдакцыю "НС" зноў накіраваны заклік, але на гэты раз ад імя арганізацыйнага камітэта па ўтварэнні партыі "Наша Будучыня". І каб не стала запозна, трэба, сябры, хутчэй яднацца, трэба ўтвараць адзіную, з'яднаную моцную партыю.

Я згодны з Іванам Каравайчыкам у тым, што не абавязкова каб справа нацыянальнага адраджэння была падмуркам палітычнай барацьбы за ўладу, але я перакананы у тым, што яна (справа нацыянальнага адраджэння) павінна быць падмуркам палітычнай партыі.

А ўжо стратэгія і тактыка такой партыі, шлях да народа, шлях да перамогі павінны грунтавацца на дасканалых ведах як мінулага так і сучаснага жыцця народа нашай краіны, яго жаданняў, яго помыслаў, яго спадзяванняў.

Бяспрэчна і тое, што ў лідэраў партыі павінны быць і майстэрства весці палітычную барацьбу, і здольнасць зазірнуць у будучыню.

***Алесь Крэмень***

Сябар аргкамітэта па ўтварэнні партыі "Наша Будучыня".

# З В А Р О Т

## ГРАМАДЗЯНЕ, СУАЙЧЫННІКІ, БЕЛАРУСЫ!

1. Над нашай Радзімай ўсё ніжэй і ніжэй навісае смяротная пагроза!
2. Ні адна партыя, якая падзяляе гэтае сцвярджэнне, на вялікі жаль, так і не змагла з'яднаць грамадзян нашай краіны.
3. Ні адзін лідар з апазіцыі не мае рэйтынгу, дастатковага для таго, каб на яго ўскласці надзею перамогі ў справе выратавання Бацькаўшчыны.
4. Зрухаў у справе аб'яднання апазіцыйных партый у адзіную моцную сілу не бачна.

Усё гэта сведчыць аб тым, што яны (лідары партый) не знайшлі шлях да народа, што ім не хапае тактычнага майстэрства, што асабістыя амбіцыі ў лідэраў, як і раней, на першым месцы. І таму не дзіўна, што сам, Аляксандр Рыгоравіч, неяк сказаў: такую апазіцыю трэба на руках насіць.

Зыходзячы з гэтага, паведамляем усім: на Гарадзеншчыне ўтвораны арганізацыйны камітэт партыі "НАША БУДУЧЫНЯ".

Партыя "Наша Будучыня" утвараецца дзеля здзяйснення мэты пабудовы Незалежнай Народнай Рэспублікі Беларусь:

Пабудаваць дзяржаву для народа, не абапіраючыся на абсалютную ці хаця б на пераважную яго большасць, немагчыма. І таму партыя "Наша Будучыня" адкрыта для ўсіх грамадзян Беларусі, незалежна ад сацыяльнага паходжання і становішча, ад месца жыхарства і нацыянальнасці. Адзінай умовай з'яўляецца любоў да нашай Радзімы, цвёрдая перакананасць у неабходнасці духоўнага адраджэння.

**ГАЛОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ ПАРТЫІ:**

а). У сучасны момант і найбліжэйшы час: абудзіць грамадства, скінуць з яго вачэй заслону дэмагагічнага туману ідэёлагаў двухмоўя, "единого и неделимого", цынічнай хлусні дзяржаўных СМІ, і на гэтай падставе аб'яднаць грамадзян нашай краіны ў адзінае цэлае — НАРОД.

б). На бліжайшую будучыню:

Прыйсці да выбараў прэзідэнта, парламента адзінай з'яднанай апазіцыйнай сілай і атрымаць перамогу.

***Арганізацыйны камітэт партыі "Наша Будучыня".***

Прапановы, заўвагі, пытанні чакаем на адрас:
230015 г.Гародня, вул.Будзённага 48а, пак 31.Акп "НБ".

# Усім сябрам ТБМ

## З А К Л І К.

Арганізацыйны камітэт па ўтварэнні партыі "Наша Будучыня" мяркуе, што пераважная большасць сяброў ТБМ, гэта сапраўдныя прыхільнікі ўратавання нашай Бацькаўшчыны, яе адраджэння. Мы лічым, што менавіта сябры ТБМ могуць унесці важкі ўклад у справу абуджэння нашых грамадзян, суайчыннікаў, беларусаў.

Заклікаем усіх сяброў ТБМ да удзелу ва ўтварэнні партыі "Наша Будучыня".

Толькі адзіная, з'ядненая мэтай пабудовы незалежнай Беларусі, партыя можа быць закладам поспеху.

Жыве Беларусь!

***Аргкамітэт партыі "Наша Будучыня".***

# Беларусы і так абыдуцца

Вось такія экзатычныя паштоўкі пад Новы год выпускаюць сёлета на Беларусі. І тут не так важна, што Дзед Мароз ці Святы Мікола сядзіць пад пальмай, у чорных акулярах і з санкамі. Хай сабе і пальмы, і санкі. Але звярніце ўвагу на подпісы. Першы па-ангельску, другі па-расейску, трэці па-летувіску, чацвёрты па-украінску, пяты па-нямецку, шосты, мабыць, па-французску. На беларускі подпіс аўтары не спадобіліся.

Вось вам беларуская рэчаіснасць: што пры двухмоўі, што пры шасцімоўі беларускай мове ўсяроўна няма месца. Гэта рэальныя вынікі сумнавядомага рэферэндуму.

# Хрысціянскае летазлічэнне, або наша эра

Каляндар узнік у далёкай старажытнасці. Адлік часу ў многіх народаў вёўся ад якой небудзь важнай легендарнай або сапраўднай падзеі, якая станавілася пачаткам летазлічэння, інакш эры. Без эры не можа быць аніводнай каляндарнай сістэмы. У гісторыі культуры іх налічваецца сотні. Найбольш старажытная з іх візантыйская, прынятая грэкамі ў УІІ ст. Яна прымянялася Расейскай праваслаўнай царквой і ў нашы дні.

Хрысціянскае летазлічэнне (або наша эра), пачаткам якога служыць адна з мяркаваных дат нараджэння Ісуса Хрыста, прымяняецца ў Еўропе з VIII ст.

Кожная эра пачынаецца пачаткам першага года. Розныя народы пачыналі год у розны час, а год меў не аднолькавую колькасць месяцаў. Старажытныя рымляне пачыналі свой год сакавіком. У 46 г. да нашай эры рымскі імператар Юлій Цэзар правёў рэформу календара. За першы месяц года быў прыняты студзень. Адлік па юліянскім календары (стары стыль) пачаўся з 1 студзеня 45г. да нашай эры. Рымляне падзялілі год на 12 месяцаў, сталі карыстацца сонечным календаром.

Пасля таго, як Старажытная Русь прыняла ў X ст. хрысціянства ад Візантыі, усходнеславянскія плямёны ўспрынялі і візантыйскае летазлічэнне і каляндар, заснаваны на сонечным годзе і сямідзённым тыдні. Адлік гадоў вёўся ад "стварэння свету", якое быццам бы адбылося за 5508 г. да нараджэння Ісуса Хрыста.

Новы год па славянскай традыцыі пачынаўся 1 сакавіка. Нашы продкі тады пачыналі рыхтавацца да вясенніх сельскагаспадарчых работ. Аб традыцыі адзначаць Новы год вясной сведчаць валачобныя песні, у якіх пералічваюцца ўсе гадавыя святы. У валачобных святах першым святам называюцца Аўдоцця, Саракі, Благавешчанне, Казімірка. Гэтыя святы — блізкія да веснавога роўнадзенства. На Беларусі ў земляробчых святах кожнай пары года: вясны (Вялікдзень), лета (Купалле), восені (Багатуха), зімы (Каляды) заўважаюцца навагоднія матывы ў песнях і абрадах.

Праз пяць стагоддзяў пасля прыняцця хрысціянства, у 1492 г., Маскоўскі сабор, у адпаведнасці з візантыйскай царкоўнай традыцыяй, замест 1 сакавіка пастанавіў лічыць летазлічэнне ў Расеі з 1 верасня. Такім чынам, усходнія славяне-праваслаўныя за пачатак года прыняў... час завяршэння збору ...раджаю і сяўбы азімых. Увосень сустракалі Новы год у Расеі звыш 200 гадоў. Толькі ў 1699 г. цар Пётр І указаў пачаць 1700 г. з 1 студзеня на юліянскім календары, хаця на той час у Еўропе ўжо карысталіся грыгарыянскім календаром.

Нашы продкі ў ВКЛ у XУІ — пачатак XУІІ стст. адзначалі пачатак Новага года 1 сакавіка (спачатку па юліянскім стылі, а з 1584 г. — католікі і уніяты па новым, грыгарыянскім). Паступова ўваходзіла ў традыцыю сустракаць Новы год 1 студзеня. Беларусы - праваслаўныя нават да сённяшняга дня захавалі традыцыю адзначаць Новы год у студзені па юліянскім стылі. Студзенскі стыль распаўсюджваўся ў Еўропе паступова пасля каляндарных рэформ Юлія Цэзара. Нагадаем, што пачаткам Новага года ў Германіі да XУІ ст. лічылася 25 снежня, у Францыі да 1556 г. — Вялікдзень, а ў Англіі да 1752 г. — 26 сакавіка (наступны дзень пасля Дабравешчання)..

Хрысціянскае летазлічэнне, прапанаванае ў УІ ст. рымскім манахам Дыянісіем Малым (пачатак эры служыць нараджэнне Хрыста, якое адбылося нібыта 25 снежня 753 г. ад заснавання Рыма), у УІІІ — X стст. значна пашырылася ў храмах Заходняй Еўропы. Упершыню яно з'явілася ў царкоўных дакументах у 742 г. і толькі з 1431 г. усе папскія дакументы абавязкова пазначаліся датай ад нараджэння Хрыстова. У XІІІ ст яно паступова пашыралася на тэрыторыі Полацкай, Смаленскай і Галіцкай зямель, а пазней і на некаторыя заходнерускія землі, якія ўвайшлі ў Вялікае княства Літоўскае. У дзелавых дакументах XУ ст. на Полацкай зямлі нярэдка карысталіся новым летазлічэннем. У справаводстве Полацкай епархіі, як і ўсёй Кіеўскай метраполіі, панавала візантыйскае летазлічэнне "ад стварэння свету".

Візантыйскі імператар Канстанцін Вялікі, атрымаўшы 1 верасня 312 г. перамогу над Максенціем, даў хрысціянам поўную свабоду спавядаць сваю веру. Айцы Першага Усяленскага сабора ў 325 г. у памяць аб гэтым вызначылі пачынаць Новы год з 1 верасня, як дзень, які стаў пачаткам "волі хрысціянскай".

На пачатку XУІ ст. пашырэнню хрысціянскага летазлічэння на Беларусі паспрыяла культурна-асветніцкая дзейнасць Францішка Скарыны. У яго пражскіх выданнях (1517 — 1519 гг.) год пачынаўся з 1 студзеня.

Узнікае пытанне: чаму ўсё ж 1 студзеня, а не 25 снежня? Справа ў тым, што Хрыстос нарадзіўся 25 снежня, а 1 студзеня далі яму імя Ісус Хрыстос. Ф. Скарына карыстаўся юліянскім календаром. Тады лічэнне вялося па старым стылі. Адзначым, што на Беларусі хрысціянскае летазлічэнне пашыралася паступова. Пасля Скарыны хрысціянскае летазлічэнне шырока выкарыстоўвалася ў розных выданнях у другой палове XУІ ст. і пазней яно сустракаецца ў помніках беларускай пісьменнасці побач з візантыйскім летазлічэннем.

Улічваючы, што на землях Вялікага княства Літоўскага ў дзелавой пісьменнасці выкарыстоўваўся не толькі студзеньскі стыль (пачатак Новага года з 1 студзеня), але і вераснёўскі (пачатак -- з 1 верасня), Ф.Скарына ў "Малой падарожнай кніжыцы" падаў каляндарныя звесткі (у святцах і пасхаліі) па форме, якія адпавядалі кананічным рукапісам праваслаўнай царквы. У скарынаўскім календары, дзе Новы год пачынаецца з 1 верасня, былі прыведзены беларускія месяцы ў супастаўленні з рымскімі. На той час беларускія месяцы называліся так: верасень, лістапад, грудзень, прасінец, стычань, люты, марэць, кветень, май, чырвець, ліпець, серпень. У сувязі з рознымі сістэмамі летазлічэння Скарына выкарыстаў 2 каляндарныя стылі: вераснёўскі і студзеньскі. Аднак ва ўсіх выданнях Скарыны асноўнай сістэмай летазлічэння была хрысціянская. Варта адзначыць, што Ф. Скарына выкарыстоўваў стараславянскія лічбы (літары пад цітлам). На Захадзе на той час прымянялі яшчэ рымскія лічбы і пераходзілі на арабскія. У канцы XУІ — пачатку XУІІ ст.ст. у дакументах Вялікага княства Літоўскага з'яўляюцца арабскія лічбы. Беларускія татары імі карысталіся яшчэ і раней.

Юліянскі каляндар адставаў ад астранамічнага года. За кожныя 128 гадоў набіраліся цэлыя суткі. Зыходзячы з гэтага ў 1582 г. рымскі папа Рыгор XІІ на аснове праекта італьянскага матэматыка і астранома Алаізія Лілiё правёў рэформу: наступны дзень пасля 4 кастрычніка быў аб'яўлены 15-м і ўпарадкаваны высакосныя гады. У той жа дзень на новы стыль перайшлі Італія, Іспанія, Партугалія і Польшча. У 1583 г., з 1 студзеня, перайшлі на новы стыль Галандыя і Вялікае княства Літоўскае (г.зн. і Беларусь). 9 студзеня 1584 г. у Вялікім княстве Літоўскім пры Стэфану Баторы выйшла грамата, якая прадпісвала адзначаць святы па новым стылі. Пераход уніятаў на новы стыль знайшоў адлюстраванне ў беларускім фальклоры.

На Беларусі, калі яна знаходзілася ў складзе Расейскай імперыі, карысталіся зноў юліянскім календаром. Расея перайшла на грыгарыянскі каляндар паводле дэкрэту Саўнаркома, прынятаму 25 студзеня 1918 г., — пасля 31 студзеня стала не 1 лютага, 14 лютага 1918г. Што датычыцца Расейскай праваслаўнай царквы, дык яна і цяпер прытрымліваецца візантыйскай традыцыі: новы год пачынаецца 1 верасня па юльянскім календары (па старым стылі) і адначасова прымяняе візантыйскае ("ад стварэння свету") і хрысціянскае летазлічэнне. Праваслаўныя святары Беларускага экзархата таксама прытрымліваюцца візантыйскай традыцыі. У 1998 г., 14 верасня, Расейская праваслаўная царква адзначыла чарговае " на звалецце са дня стварэння свету" — 1 верасня 7506г.

Урачыстае эфіцыйнае святкаванне Новага года 1 студзеня па юліянскім календары ўводзілася ў еўрапейскіх краінах не адразу: у Германіі ў 1510 г., у Францыі — у 1580г., у Расеі — у 1700 г. На Беларусі, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай, уведзена ў традыцыю з 1 студзеня 1630 г. па новым стылі каралём польскім Жыгімонтам ІІІ Вазай ( вялікім князем літоўскім Жыгімонтам ІУ). Напэўна тады ў нас упершыню пачалі ўпрыгожваць ёлку. Ёлка да нас прыйшла з Германіі, Дзед Мароз — з Швецыі, Снягурка ў мінулым стагоддзі нарадзілася ў Расеі. Аднак для іх прыжываннія ва ўсходніх славян існавала добра падрыхтаваная глеба. Напрыклад, у беларусаў існавалі культ бярозкі ("куста") у летніх абрадах, міфічныя вобразы Зюзі і Мароза ў беларускіх казках і каляндарных абрадах, культ багіні Лёлі — у веснавых абрадах. Праваслаўнае насельніцтва Беларусі, Украіны, Расеі, Балгарыі ў сямейным побыце сустракае ў наш час Новы год узімку, 1 студзеня, двойчы: па грыгарыянскім і юліянскім календарах.

Хрысціянскае летазлічэнне па грыгарянскім календары прынята амаль увесь хрысціянскі свет (апрача Расейскай праваслаўнай царквы). Цяпер ім карыстаюцца ў большасці краін свету, а таксама органы і арганізацыі ААН.

*Сымон Барыс, г. Менск*

# Віленскія напевы

З нядаўняга часу я ператварылася з мовазнаўцыаматара ў чалавека, які стала займаецца вывучэннем беларускай мовы і літаратуры. Справа ў тым, што я пачала вывучаць беларускую філалогію ў Віленскім педагагічным універсітэце. На абшарах былога Савецкага Саюза гэта адзіная кафедра за мяжой, дзе вывучаюць беларускую мову. Ёсць яшчэ такая кафедра ў Варшаўскім унівесітэце, але, як вядома, стасункі з Польшчай ў нас былі раней трошкі іншыямі, чым з Летувой.

Але ўсё ж, чаму Вільня?

У кожнага з нас, беларускіх студэнтаў, свае стасункі з Вільняй, свае прычыны вучыцца менавіта тут. Распавяду трошкі аб тым, чаму менавіта я выбрала Вільню. Магчыма таму, што дзеля мяне Вільня (асабліва ў савецкія часы, калі паміж Беларуссю і Летувой не было мяжы) успрымалася гэткім жа родным і блізкім горадам, як напрыклад, Гародня . Менск быў ужо трохі далей і па адлегласці, і па менталітэту. Калі Менск я, як ні круці, увесь час успрымала як сталіцу Рэспублікі Беларусь, то Вільню летувіс разумее, як горад летувіскі, сталіцу сваёй дзяржавы, паляк — як горад, дзе не можа згубіцца аніводзін паляк, то беларус і асабліва беларус-заходнік — як сталіцу беларускага Адраджэння.

З Вільняй ў розныя часы было звязана жыццё амаль што ўсіх выбітных беларускіх людзей. Аб некаторых з іх напамінаюць нам шыльды на сценах пад час вандровак па Вільні, пра іншых проста дзе-нідзе ды і ўзгадаецца. Калі павандраваць па вуліцах старога горада, можна прайсці побач з палацам Льва Сапегі, які размяшціўся непадалёк ад кацёла Св.Міхала і амаль што насупраць касцёла Св. Ганны. Напэўна, няма патрэбы тлумачыць, хто такі быў Леў Сапега: віленскі ваявода, канцлер, гетман Вялікага Княства Літоўскага, стваральнік Літоўскага трыбунала, складальнік трэцяй рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага. Пахавалі Льва Сапегу ў касцёле Св.Міхаіла, тут пахаваны і абедзве яго жонкі і яго сыны. У 1656 годзе маскоўскія захопнікі пашкодзілі і касцёл, і помнік Льву Сапегу, выкінулі з трунаў парэштткі самога Льва Сапегі і яго родных. Пазней парэштткі Льва Сапегі і яго родных былі змешчаныя ў новыя труны. Зараз яны знаходзяцца пад галоўным алтаром.

Дарэчы ў гэтым касцёле пробашчам служыў яшчэ адзін выбітны сын беларускай зямлі — Адам Станкевіч, які праводзіў службу на беларускай мове. З Вільняй некаторы час было звязана жыццё Адама Міцкевіча. Менавіта тут узніклі знакамітыя "філаманты і філарэты", тут маецца помнік знакамітаму паэту, на адным з дамоў ёсць мемарыяльная дошка.

Яшчэ адна гістарычная асоба, князь Канстанцін Астрожскі, за перамогу над маскоўскімі войскамі паабяцаў пабудаваць у Вільні дзве царквы. Гэтыя цэрквы, Мікалаеўская і Святатраецкая, існуюць і дасёння.

Найбольш багаты на беларускія імёны ў Вільні быў перыяд пачатку 20-га стагоддзя, гэты перыяд называюць "нашаніўскім". Гэта і Цётка, і браты Луцкевічы, і навучэнцы Беларускай Гімназіі. Жылі тут і Якуб Колас, і Янка Купала.

Тут у Вільні, 22 сакавіка 1864 году на Лукішскім пляцы быў павешаны Кастусь Каліноўскі. Зараз на пляцы ўстаноўлены мемарыяльны знак.

Старая Вільня — гэта горад помнікаў, цэркваў і памяці. Напэўна, няма іншага месца, дзе гэтак лёгка можна спрычыніцца да традыцый, якія гэтак лёгка страціць.

*Лілея Сазанавец.*

## "Будам жыць"

Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр выдаў кнігу Аляксея Каўкі "Будам жыць". Кніга выдадзена ў рамках праекта ў "Антыкамуністычная апазіцыя ў Беларусі 1945-1991" і "Падтрымка незалежнай выдавецкай дзейнасці ў Беларусі". Тэматычна працягваючы папярэдні зборнік "Жывом!" (Масква-Менск, 1997), аўтар разважае над праблемамі беларускага самапазнання, роллю роднае мовы, літаратуры, гісторыі ў нацыянальным лёсе суродзічаў. Асобнымі старонкамі ў кнізе вылучаныя постаці Ф. Скарыны, Я. Купалы, М. Багдановіча, А. Гаруна, К. Езавітава, М. Доўнара-Запольскага, С. Александровіча, М. Улашчыка, Г. Кахаsuccоўскага, іншых пісьменнікаў, дзеячоў навукі, культуры, назаўсёды ўпісаных у летапіс Беларускага Адраджэння.




Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 28. 12. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 3118 .
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.